«Сіла, брат, у грамадзе!»
Я. КОЛАС

# Сумежжа

ПАСТАУСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Выдаецца з ліпеня 1991 года

№ 18 (61) | 1—17 КАСТРЫЧНІКА 1994 ГОДА | Цана дагаварная

## Свабоднае слова для свабодных людзей „Сумежжа“—95

Правінцыйныя хронікі — Дзень за днём
Насустрач выбарам — Рэха падзей
Лёсы людскія — Прыслухаемся
Кароткі катэхізм хрысціянскай навукі
Новыя вершы — З нагоды
Як жывём? — Супер-факт
Нам пішуць — Пазіцыя
Пыталіся-адказваем — Экспрэс-апытанне
Інфармацыя для роздуму — «Белыя плямы» гісторыі
Каштоўныя парады — Анекдот

Наш індэкс 63986

Кошт падпіскі на паўгода — 1200 руб., на 3 м-цы — 600 руб., на месяц — 200 руб.

Шчыры працаўнік і сумленны беларус — наша газета для вас.

Будзьце з намі, сябры.

ПАЗІЦЫЯ

## Хто прапануе іншае?

Тую сітуацыю, якая пануе сёння ў правінцыі, я б ахарактарызаваў як здранцвенне. Двойчы праявіўшы дзіўна высокую актыўнасць, народ анямеў у чаканні таго, чаго ён патрабаваў, галасуючы за цяперашняга прэзідэнта. Яўна знізілася актыўнасць і палітычных сілаў правінцыі, ідзе іх перагрупоўка: нехта прыслухоўваецца да галасоў са сталіцы, нехта ў надзеі на асабісты рэванш прымерваецца да новых выбараў. Што нас чакае?

Вобразна кажучы, новай і досыць магутнай хваляй ударыла ў правінцыйнае жыццё прыняцце Вярхоўным Саветам прэзідэнцкай праграмы рэфармавання мясцовых органаў улады. Я не адношуся да тых, хто сёння ўздымае плач па Саветах, якія нібыта на месцах спыняюць сваё існаванне. З'яўляючыся дэпутатам Віцебскага абласнога Савета ў апошнія гады цудоўна ўбачыў і зразумеў усю эфемернасць, мякка кажучы, нашай улады. Што, уласна кажучы, мае дэпутат абласнога, раённага Саветаў? Біцца як рыба аб лёд у сваіх выбарчых акругах, безвынікова спрабуючы дапамагчы людзям? Чатыры разы на год у час сесій зрабіць дэпутацкі запыт, адказ на які заўжды быў вельмі і вельмі праблематычным?

Іншая справа, калі дэпутатам абласнога і раённага Савета з'яўляўся кіраўнік арганізацыі, прадпрыемства, гаспадаркі, чыноўнік якога-небудзь выканкома. Тады яго дэпутацтва ўвасаблялася ў рэальную магчымасць уздзейнічання на размеркаванне фінансаў, ліцэнзій, льготных крэдытаў, квот. І ўсё гэта пакрывалася, як нябачным парасонам, дэпутацкай недатыкальнасцю. Я далёкі ад думкі, што ўсе дэпутаты выкарыстоўвалі гэтыя магчымасці, далёкі ад думкі, што выкарыстоўвалі іх усе дэпутаты-кіраўнікі, але мінулыя гады яшчэ раз пацвярджаюць: парасон, штучна створаны існуючым заканадаўствам, цудоўна выратоўваў вельмі многіх.

Рэальная ўлада непарыўна звязаная з аб'ектыўнай ўсеабдымнай інфармацыяй. Хто ёй валодае на абласным, раённым узроўні? Адзінкі. Гэта неяк сарамліва хаваецца, згладжваецца, але менавіта ў гэтым уся існасць цяперашняй улады. Доступ да інфармацыі, да крыніц першасных штучна закрываецца сёння нават радавым дэпутатам. Таму я не магу сёння аб'ектыўна выступаць, не магу рэальна інфармаваць выбаршчыкаў. Інфармацыя — гэта і сёння прывілея чыноўніцтва высокага рангу. І вось акамянелая ў дзесяцігоддзях структура пахіснулася. Саветы адыходзяць не тое, што на другі план. Яны страчваюць рэальную ўладу, становяцца своеасаблівай шырмай прэзідэнцкай вертыкалі.

З аднаго боку гэта вельмі добра, бо прэзідэнт выступае гарантам усіх змен, гарантам стабільнасці, больш таго, бярэ на сябе адказнасць за той курс, які праводзіцца ў дзяржаве. Нарэшце завяршаецца перыяд, як пісалася «ўсеўладання» і поўнай безадказнасці Саветаў. Рашэнне прынятае на абласным, раённым узроўні магло быць вельмі канкрэтным і нават вельмі небяспечным, але адказнасць за яго нёс Савет у цэлым, а, значыць, ніхто канкрэтна.

Досыць безадказнасці. Ёсць людзі, спадзяюся, што знойдуцца яны і ў правінцыі, якія ад імя прэзідэнта і пад яго сцягам возьмуць усю адказнасць за будучае грамадства на сябе, на пэўны перыяд яны маюць давер выбаршчыкаў. Іх веру ў хуткае пазбаўленне ад прыгнёту эканамічнага крызісу. Але толькі сляпы не ўбачыць тут дзве небяспекі. Першая. А каму даверыць прэзідэнт правядзенне сваёй новай і непадобнай на ранейшую лініі ў эканоміцы, палітыцы на месцах? Мы ўсе сёння пільна ўглядаемся ў сталічныя перастаноўкі і бачым, што нават у сталіцы прэзідэнт не мае магчымасці адмовіцца ад старых кадраў. Мы, тут на месцах, верым, што абраныя ім прадстаўнікі «старой гвардыі» сапраўды прафесіяналы і чэсныя людзі. Але як можна разабрацца на месцах? Там, дзе выбаршчыкі галасавалі найперш за Лукашэнку, таму што галасавалі супраць мясцовых крэатур Кебіча?

Як я змог убачыць, прызначэнне новых чыноўнікаў ідзе поўным ходам, а вось ці будзе ў правінцыі ў гэтым працэсе выкарыстана калектыўная думка?

І тут узнікае другое пытанне — супрацьвага прэзідэнцкаму паўнаўладдзю ў правінцыі? Дзе яна? Зразумела, што праз некалькі месяцаў мы вымушаныя будзем выбраць усенародна парламент, які ў сістэме ўлады рэспублікі стане важным звяном. А што можна будзе супроцьпаставіць, не дай Бог, самадурству прэзідэнцкага прадстаўніка ў вобласці і раёне? Я такіх супрацьваг сёння не бачу. Але змушаны сёння ісці услед той большасці выбаршчыкаў, якія выбралі шлях Лукашэнкі. Канструктыўнае супрацоўніцтва, агульны пошук выйсця — хто прапануе іншае?

**Генадзь ГУЧЫК,**
**дэпутат Віцебскага абласнога Савета.**

## Хто ў чым. Але свайго малавата

Хоць і паменела людзей у форме на вуліцах Пастаў, але іх яшчэ вельмі і вельмі дастаткова. Такая наша спецыфіка — вайсковая, прыгранічны горад. Авіяцыйны полк, пагранічная камендатура, пагранічны ж шпіталь і верталётная эскадрылля. А да таго ж міліцыя, а да таго мытня, якія вельмі і вельмі пашырылі свае штаты. Каму цікава: там ужо служаць сотні людзей. І ва ўсіх гэтых людзей у форме — сама форма самая разнастайная. Прычым, адразу бачыш, якая служба найбольш багатая, гэта значыць, якой службе былы ўрад аддаваў большы кавалак з бюджэту.

Свая форма ў мытнікаў. Свая форма ў пагранічнікаў. Ну тут можна зразумець, яны як-ніяк сустракаюць гасцей рэспублікі, і павінны насіць беларускую форму. А вось мясцовая міліцыя пераапранаецца ў беларускае не зусім хутка. Не хапае грошай. Не хапае іх і арміі, бо ў мясцовых авіятараў форма яшчэ савецкага ўзору. Ходзяць чуткі, што ёсць беларуская апратка і для вайскоўцаў, наш мясцовы ваенком нават атрымаў магчымасць у хуткім часе выйсці ў народ у ёй. Але ў асноўным беднасць, спадары.

НАМ ПІШУЦЬ

## Дзе вас вучылі эканоміцы, спадар Прэзідэнт?

Вывучыўшы указ Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі ад 20 верасня бягучага года «Аб мерах па напаўненню рынка рэспублікі таварамі і спыненню неабгрунтаванага росту цэн на іх» рызыкую прадказаць яго наступствы: вываз капіталу за межы краіны, падзенне курса «зайца» (так афіцыйна і не прызнанага Вярхоўным Саветам нацыянальнай валютай), затаварванне і збядненне дзяржпрадпрыемстваў, стварэнне новый умоў для карупцыі. Пачнём па парадку.

Агульнавядома, што даволі шмат тавараў, неабходных для Беларусі ў рэспубліку пастаўляецца на аснове бартэра, у першую чаргу з Расіяй праз недзяржаўныя камерцыйныя структуры. У іх, дзякуючы наяўнасці гібкасці, структуры спраўна плоцяць грошы. Але цяпер, згодна указа, гэта становіцца немагчыма. Дык хто ж будзе купляць? Пакупніцкая здольнасць насельніцтва Беларусі нізкая, ды і не трэба нам такой колькасці тэлевізараў, халадзільнікаў і іншых тавараў, таму іх шмат ідзе за межы рэспублікі. І гэта добра. Закон эканомікі: добра для краіны, калі яе тавар экспартуецца.

Як жа, шаноўны А. Лукашэнка, збіраецеся рэалізоўваць беларускія тавары і ачышціць склады прадпрыемстваў, як гэта было абяцана прэзідэнтам? Няўжо вы думаеце, што гэтым будзе займацца расійскі ўрад В. Чарнамырдзіна, у якога ў краіне ўвесь гандаль прыватызаваны. За якія грошы нашы прадпрыемствы будуць закупляць сыравіну, плаціць нарэшце рабочым зарплату?



«... Цэны павышаем першы і апошні раз...»

Львіную долю прадукцыі дзяржаўных прадпрыемстваў закупляюць камерцыйныя структуры. Нашы прадпрыемствы задаволены такім супрацоўніцтвам, бо ў адрозненне ад дзяржгандлю гэтыя прадпрымальнасці наладжаны сувязі з замежнымі партнёрамі, і гэтыя структуры валодаюць дастаткова важкай доляй капіталу ў эканоміцы Беларусі. Гэтыя грошы не могуць знаходзіцца без руху. Пасля ўвядзення ў жыццё прэзідэнцкага указа бартэр становіцца для іх немагчымы. Застаецца адно — пакупка валюты, расійскіх рублёў на біржы і пастаўка на гэтыя грошы неабходнай сыравіны і тавараў у рэспубліку. Павелічэнне попыту на валюту непазбежна прывядзе да падзення курсу «зайца» і, адпаведна, росту цэн, зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Няўжо такія азы эканомікі Вам і вашему Кабінету Міністраў невядомыя? Вы ж, шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, любіце падкрэсліваць, што вы эканаміст. І дзе ж ваша абяцанне аб роўных умовах для дзяржаўнага і прыватнага гандлю?

Вы, спадар Лукашэнка, узначальвалі ў свой час камісію Вярхоўнага Савета па барацьбе з карупцыяй. Дарэчы, дзе ж вынікі вашай барацьбы? Бо вы цяпер маеце ўладу. Няўжо ўся гэта «барацьба» вам была патрэбна толькі для атрымання прэзідэнцкага крэсла? Вам ці не ведаць, што аснова карупцыі — гэта дазваляльная функцыя дзяржчыноўнікаў. І што ж. Прэзідэнтам уводзіцца яшчэ адна такая функцыя. Уяўляю, колькі трэба будзе пакласці ў кішэню чыноўніку каб камерцыйнай структуры на пакупку прадукцыі дзяржаўнага прадпрыемства атрымаць дазвол. І не трэба абурацца, што там працуюць чэсныя людзі (для Прэзідэнта і вядомы Д. Булахаў — найчаснейшы чалавек, нават у старшыні Канстытуцыйнага суда рэкамендаваў). Справа не ў людзях, а ў іх функцыях.

**В. АЛЬФЕР,**
**старшыня Вілейскай раённай арганізацыі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі.**

ЯК ЖЫВЕМ?

# Механізм вынішчэння

1917 год... Сказаў слова народ, узнёсшы сваіх ідэалагічных ідалаў на трон уседазволенасці. Пачаліся гады тэрору і адбору універсальнай жывучай пароды. Пароды, валодаючай імунітэтам супраць гуманнага і боскага, нахабнай і жорсткай. Асобы гэтыя неахвотна выказваюцца публічна, хаваючы свае марадзёрскія пысы ў карыце ўлады і пасад. Вы можаце здагадацца аб іх прысутнасці ў грамадстве па іх вонкавым выглядзе.

Гэта не старыя, якія нясуць апошні грош у булачную, гэта не сціпла апранутыя грамадзяне, якія вядуць за руку сціпла апранутых дзяцей, гэта не тыя хворыя, інваліды, — нікому не патрэбныя і невядомыя, гэта не тыя скалечаныя самадурамі ад улады людзі.

Гэта адкормленыя, з наменклатурным лоскам асобы мужчынскага і жаночага полу з дабротна апранутымі ўходжанымі дзецьмі. Мутацыі працягваюцца: Чарнобыльскія, палітычна- дэмаграфічныя і проста па Дарвіну.

... « Не гавары аб мінулым у восеньскіх сумных адценнях»... З экрана голас даўганогай бландынкі, Астанкіна прапускае чарговы шлягер — 95. На вуліцы кастрычнік, зусім неабавязкова звяртаць увагу на мутантаў. Але... Гавораць людзі, незнаёмыя вам і паміж сабою. Разам яны, слабыя, зняважаныя, — мацнейшыя і незалежныя. Марадзёры сучаснага дня жадалі б, каб іх не было і голас іх не гучаў.

**РАБОЧЫ, 25 год:** «гады два таму ў касе прадпрыемства мне выдавалі наяўнымі 15 тысяч. Пяць дзён у тыдзень патрэбна было нават у непагоду выконваць фізічную работу. Прадпрыемства прадавала прадукцыю і мела велізарную выручку (у мільёнах). Нам жа нават спецадзенне нельга было купіць, бо патрэбна было хаця б 1—2 разы ў дзень перакусіць, каб падтрымаць працаздольнасць. У сяброў былі сем'і: дзеці, жонкі, не маючыя работы. Аб тым, каб атрымаць жыллё, не магло быць і рэчы. У той жа час начальства крала будматэрыялы, хоць мела зарплату, у некалькі разоў перавышаючую нашу. Нас не надта цікавіла, які жыццёвы ўзровень у іншых прафесій. Але аб тым, што чыноўнікі, ваеншчына атрымлівалі за 100 тысяч бел. рублёў, мы ведалі. Гэта зневажала нас як маладых, пачынаючых жыццё людзей. Вельмі балюча было прыходзіць дамоў і чуць, што сынок з нерабочай сям'і мае ўжо больш за 20 этыкетак ад імпартных шакаладак».

**Жанчына з чаргі на рынку:** ... «тыя, хто намецiў сваіх дзяцей у платныя адборныя садзікі і школы і можа пры выпадку звярнуцца да замежных урачоў, — далёкія ад чалавечнасці асобы. Абабралі ўсіх, адабралі апошняе: сберажэнні, лякарствы, абмежавалі ў харчаванні, адзенні. Ведаеце, што такое дрэнная вопратка? Гэта наш стан. Нам у сям'і штодзённа патрэбны лякарствы, якія савецкія медустановы ад нас забралі і накіравалі ў самазванныя камерцыйныя лаўкі. А гэтым нядаўна скам усё роўна, чым гандляваць валакардынам, тэафедрынам, астмапентам альбо зброяй, парнаграфіяй ці свінінай. Вы разумееце, што можа адбыцца, калі пад рукой не акажацца астмапента ці інсуліну? У свой час савецкія калгасы з натхненнем забралі здароўе. Мы бачым, што сягоння «гаспадары» жыцця ў сутнасці ягады з таго самага поля. Заўважце, калі тысячы атраўлены радыяцыяй, калі чэргі ў аптэках усё маладзеюць, у выпадку хваробы ці траўмы гэтых «гаспадароў» знойдуцца грошы і лякарствы. У нашым доме ў адной сям'і дэфіцытнае лякарства патрэбна жанчыне і дачцэ. Маці агранічвае сябе на карысць сваёй крывіначкі.

**Сям'я з двух чалавек:** «у сярэдзіне 80-х у нас была чарга на кааператыўнае жыллё. Пры гэтым на агульную чаргу канцэлярская асоба паставіць адмовіла. У сярэдзіне 90-х ня стала ні чаргі, ні зберажэнняў. Тыя, хто меў уласныя дамы і кватэры, паўлазілі ў чаргу хто як пры адсутнасці інфармацыі аб гэтым працэсе. Мы падпадалі пад катэгорыю льготнікаў але і гэта наменклатурныя пацукі пераждвалі, пусціўшы тых, хто клапаціўся аб хуткім укладанні перабудовачных зайцоў у нерухомасць. Прапаў стаж па чарзе, камуністычная перабудова ўкрала грошы на чыюсьці «дэмакратычную» навастройку; юрыст, да якога мы звярнуліся за падтрымкай, цынічна вымавіў, што крымінальнай гэтую сітуацыю не назавеш. Побач ходзяць людзі, якія за год—два ні за што ні пра што, ні за якія вартасці і заслугі, у мінулым хранічныя троечнікі і пасрэднасці, атрымалі па 2—3 пакоі толькі за тое, што прадалі свае душы пакупнікам ад партыі. Сягоння яны ж першыя плюнулі на свае ідэі і разам з пакупнікамі распаўзліся па крамах, таможнях, акцыянерных таварыствах і фірмах. Па сутнасці, яны загубілі будучыню, яны ўжо не чырванеюць, таму што даўно «пазелянелі». Калі сябра скардзіцца, што не атрымаў крэдыта ў банку на пабудову дома, я адказваю яму: «Ты тварам не выйшаў, ён у цябе не падхалімскі і не наменклатурны, ён у цябе такі наіўны. А такая міміка вядзе да пройгрышу».

**З размовы ў чарзе за хлебам:** «... гэта асоба можа давесці да інфаркту. Учора насілася па ўсяму раёну, усоўваючыся ў размовы ў аўтобусах, чэргах, ля слупоў з аб'явамі, лямантавала аддаць галасы партмафіі. Зразумець можна: радня пазалазіла ў гандаль, канторы, нават у армію скокнулі. Трэба ж падмазваць. Ды раптам выходзіць, што заўсёды былі яны заходнімі беларусамі, гэтакімі еўрапейцамі ў чужой краіне. Чаму ж яны не адправіліся да варот Масквы, Варшавы ці на бульвары куды-небудзь далей? Не чакаюць? Вядома, што іх прытрымала: кармушка, прычым капітальная. Там сынок, дачка таксама на сваім мейсцы. А што тычыцца дзядзькоў, сясцёр і інш., тыя з даўніх часоў пасуцца ў грамадскіх загашніках: хто працуе пакрыху і «нясець», хто прыпісвае, хто даносіць і прэміруецца. Пры якім яшчэ рэжыме гэтыя «заходнікі» змаглі б так мышкаваць? Бадай што толькі ў ваенны час, абдзіраючы трафеі як з адных так і з другіх, альбо рабуючы бежанцаў ды пакінутыя крамы. Узнікаюць пытанні: ці патрэбны падобныя перавёртышы ў іншым асяроддзі? Спытайце іх у твар: свядомыя ўчора і свядомыя сягоння — хто вы?»

**Жанчына, памылкова трапіўшая ў краму:** «... ведаеце, я сапраўды памылілася. Убачыўшы шыльду з назвай знаёмага калгаса, вырашыла са сваей пенсіі купіць штонебудзь для стала. Аказалася, што ў гэтых калгасных камерцыйных лаўках цэннікі такія, што маёй пэнсіі не хопіць на 1 кг самага таннага прадукту. Так нізка дзяржава ацаніла нашы жыцці, паставіўшы перад фактам: бяры выпіўку і блок жавачнай рэзіны. Але ж кім гэта набываецца і прапаноўваецца падобная прадукцыя, каму выміранне насельніцтва рэнтабельна? Тым функцыянерам і таўстасумам, што як гандлякі занялі нізкі старт для прыватызацыі. У мяне хворы муж, беспрацоўны сын (скарацілі). Усё жыццё пражылі ў старэнькай драўлянай хаце. Бачым, як пад'ёмныя краны паднімаюць паверхі дамоў-помнікаў. За чыю працу? За чые падаткі і крэдыты?...»

Вышэй за храмы узнімаюцца чарапічныя і ацынкованныя зданні, сведкі рабавання і зняваги людзей і краіны, сведкі незвярынай драпежнасці, нахрапістасці, як пасведчанне сучаснага канібалізму. Фізічнае вынішчэнне людзей адбываецца не толькі ў форме баявых дзеянняў, але ў форме эканамічнага, сацыяльна-бытавога тэрору на фоне прыгнечанасці свядомасці, пад уплывам генаў страху з аднаго боку і генаў лізаблюдства з другой. На жаль, як сведчыць былы кебічаўскі і невядома чый сягоння тэлеэфір, прэзідэнт залічыў парламенцкую апазіцыю ў сваю апазіцыю. Мудрасцю гэтае рашэнне не вызначаецца. Беларусі толькі не хапала канфліктаў па тыпу каўказскіх. Усход і Захад сваіх тэрыторый мае кожная дзяржава. Беларусам няма ніякай патрэбы ў тым, каб бачыць сцэну прызнання ў каханні, якую разыгрывае Лукашэнка ў Крамлі. Ушчэнт прапітыя, зарваўшыяся маскоўскія царкі, якія нават славянамі не з'ўляюцца, глядзяць на беларускую нацыю так жа, як яфрэйтар Адольф Гітлер разглядаў усходнія землі і народнасці па антрапамэтрычных і анатамічных картах. Краіне пашанціла мець і адчуваць непасрэдны ўплыў як усходніх так і заходніх плыняў. Не ў гэтых сферах трэба спрачацца ствараючы ўмовы існавання мясцовай «знаці».

Іосіф МАЛЕЦ.

# Вершы Пятра Літвіновіча

x x x

Мяне Муза спытала, прыйшоўшы аднойчы
уранні:
«Што цябе заручыла са мною?» «Каханне.
Да цябе прыпадаю, канечне ж, не першы —
Не адрынь, падкажы, дзе луналі ўсе вершы».

Адказала мне Муза на гэта пытанне:
«Ты крыніцу для вершаў знайшоў. Каханне.
Век не вычарпаць гэтай табе крыніцы.
Аб адным папрашу: ты не дай крышталю
замуціцца».

Я пра гэта успомню не раз заклінанне.
Хай, як сонца прамень, зіхаціць Каханне.
Палымяная у сэрцы заўсёды гарыць надзеяй,
Хай жыве між людзей і бывае заўсёды
падзеяй.

Колькі выпадзе жыць і, магчыма, ісці зарана,
Будзь жа Богам маім, правядзі па жыцці,
Каханне.
Зберажы ад пакут, чысцінёй агарні душу,
Многа вершаў табе я яшчэ напішу.

x x x

Мароз узяўся не на жарты,
Ён прабірае аж да слёз.
І сонца вогненным пажарам
Займае макаўкі бяроз.

Яны стаяць, нібы сястрычкі,
За рукі ўзяўшыся цішком...
Я да апошняй электрычкі
Паспець стараюся бягом.

Шапочуць елкі між сабою,
Іскрыцца ад мароза снег.
І, заварожаны да болю,
Я затрымаў свой хуткі бег.

Стаю. А промні, нібы znічкі,
Прырода, мой табе паклон.
А у апошняй электрычкі
Апошні прамільгнуў вагон.

x x x

Ты зорка мая на чорным крутым небасхіле.
Цябе адшукаў, і жыццё пасвятлела ўдвая.
Ужо не забыць мне імгненняў, што шчасце
дарылі.
Ты яркая зорка мая.

Ты казка мая. У жыцці вельмі многа брыдоты.
Лухты і падману, як толькі трывае зямля?
Сваёй чысцінёй уратуй ад нямой адзіноты.
Ты цудоўная казка мая.

Ты шчасце маё. Як можна ў гэта паверыць
У здранцвелай душы, што даўно парасло ўжо
быллём?
У краіну кахання мне насцеж адкрыліся
дзверы —
Ты пяшчотнае шчасце маё.

Ты песня мая. Я словы той песні збіраю
З расістых кустоў, дзе ўзрываецца трэль
салаўя.
Мне сэрца маё гэты дзіўны напеў прыгадае.
Ты звонкая песня мая.

ГЭТА ЦІКАВА

# Колькі вам гадоў?

**Кожны чалавек проста абавязаны ведаць свой не толькі каляндарны, але і фізічны ўзрост. Яго можна вызначыць, не прыбягаючы да працяглых медыцынскіх даследванняў — з дапамогай наступных нескладаных тэстаў. Спадзяёмся, што большасць нашых чытачоў так і зробіць.**

### ТЭСТ НА РАЎНАВАГУ

Станьце босымі нагамі на падлогу. Зажмурце вочы і, не згібаючы нагі ў калене (левую ці правую — усё роўна), падніміце яе сантыметраў на 10—15 уверх. Колькі вы зможаце прастаяць, не згубіўшы раўнавагі? Калі вы не зрушыліся з месца 30 секунд і болей, то ваш біялагічны ўзрост вылічваецца, прыкладна, 20 гадамі. Калі вы змаглі ўтрымацца на адной назе ў такім становішчы 28 секунд, то ваш арганізм выглядае на 30 гадоў. Людзі ў біялагічным узросце да 40 павінны пратрымацца не менш 22 секунд. Для 50-гадовых дастаткова 18 секунд, для 60-гадовых — 10. Ну, а калі вам не ўдалося прастаяць з зажмуранымі вачамі больш 4 секунд, то ваш біялагічны узрост раўняецца 70 гадам.

### ТЭСТ ДЛЯ ВАЧЭЙ

Людзі ў 20-гадовым біялагічным узросце могуць чытаць звычайны газетны тэкст, удаліўшы яго на адлегласць 20 сантыметраў ад вачэй. Пры гэтым ім выразна бачна кожная буквачка. Калі буквы і словы застаюцца чоткімі на адлегласці ў 25 сантыметраў, то вам каля 30 гадоў. 35 сантыметраў гавораць аб 40-гадовым узросце. 60-гадовыя добра бачаць з адлегласці ў 45 сантыметраў. 70-гадовым неабходна адсунуць газету аж на 60 сантыметраў. Дарэчы, не забудзьцеся пра істотную дэталь: тэст выконваецца без акуляраў.

### ТЭСТ ДЛЯ СКУРЫ

Пакладзіце рукy на стол. Націснеце моцна, да з'яўлення лёгкай болі мышцу, размешчаную паміж вялікім і ўказальным пальцамі. Прадоўжыце гэта дзеянне 5 секунд і рэзка спыніце. Паміж пальцамі вы ўбачыце белую пляму — кроў адышла ад гэтага месца. Назірайце за часам: за сколькі секунд скура набудзе папярэдні стан. Калі вам няма 30, то скура стане нармальнай за 5 секунд. За гэты час ток крыві здольны набыць свой звычайны бег. У 40-гадовым узросце працэс цягнецца 8 секунд. Аб вашых 50 гадах сведчаць 10 секунд, аб 60 — 15. Ну, а калі для аднаўлення нармальнага крывазвароту патрабуецца больш 40 секунд, то ваш біялагічны ўзрост набліжаецца да 70 гадоў.

Для больш дакладнага яго вызначэння і для свайго заспакойвання складзіце ўзросты, атрыманыя пасля ўсіх гэтых тэстаў і раздзяліце на тры. Атрыманы вынік вам скажа аб многім. А так усім вам добрага здароўя і бадзёрасці.

# Уніз ці ўверх па вертыкалі?

Два дзядзькі, на выгляд вясковыя, размаўляюць на аўтавакзале ў Паставах. Між волі прыслухоўваюся. Зноў пра палітыку. І словы «саветы», «прэзідэнцкая вертыкаль» гучаць у іх вуснах неяк прывычна. За апошнія гады ў палітыцы пачалі крыху разбірацца і такія вось малапісьменныя дзядзькі. Нас навучылі ў ёй разбірацца: раз за разам заводзячы краіну ў тупік і потым апеліруючы ўжо да ўсяго народа: рабіце выбар і ратуйце гэтым выбарам сябе. Кажуць на захадзе палітыкай займаецца зусім няшмат простых людзей. Ну ды ў іх там пасля не даводзіцца зацягваць так туга.

Але вернемся да дзядзькоў. З падслуханай ненаўмысна размовы стала зразумелым, што яны неяк спадзяюцца на перамены ў мясцовай уладзе. Перш наперш спадзяюцца, што цяперашні старшыня сельсавета будзе зняты. Я не ўмешваўся ў гутарку, але падумалася, што спадзяванні дзядзькоў, па ўсім відаць, дарэмныя. Так, нейкія знешнія змены адбудуцца. Ужо не будуць два разы, а то і раз на год збірацца сесіі сельсаветаў, на якіх весціся пустыя размовы і прымацца невыканальныя рашэнні. А вось старшыня Савета у іх вёсцы верагодней за ўсе застанецца на сваім месцы, толькі зменіць назву сваёй пасады на «кіраўніка адміністрацыі». Што пераконвае ў гэтым? А давайце глянем на славутую ўжо вертыкаль зверху ўніз. Прэзідэнт, які ў час выбараў абяцаў народу вобразна кажучы «разабрацца» з некалькімі дзесяткамі вышэйшых чыноўнікаў краіны, пакуль што не выконвае сваіх абяцанняў. А вось у новым урадзе старых чыноўнікаў вельмі шмат. Што цяпер адбудзецца з кіраўніцтвам на ўзроўні абласцей? Ды, думаю, перамен акажацца няшмат. Безумоўна, магчыма, што ў Віцебску на самым высокім узроўні адбудуцца перамяшчэнні — на гэта ёсць некалькі суб'ектыўных прычын — тое ж расследванне пакушэння ў Лёзне. Але да ўлады абавязкова прыйдуць — няхай з Мінску, няхай з Віцебска — але старыя «зубры» кіравання. Якія цудоўна пачувалі сябе спачатку пры камуністах, потым пры саветах. І далей па ланцужку ў раённае звяно. А што ў кіраўнікоў раённага звяна няма асабістых і вельмі моцных сувязей з «зубрамі»? Наіўна было б думаць, што не. Увогуле, мы павінны прывыкнуць, што ў нашай краіне пры вырашэнні кадравых пытанняў заўжды пераважае суб'ектыўнае, асабістыя сувязі і асабістая адданасць. Потым ужо там дзелавыя якасці. Так што пачакайма, але на вялікія змены спадзявацца нам няма чаго. І той чыноўнік, які такі нялюбы выбаршчыкам, што аддалі свае галасы кандыдату ў прэзідэнты, будзе намі кіраваць ад імя Прэзідэнта.

Яно б і не так страшна, каб было бачна святло ў канцы тунеля. А там жа становіцца больш цьмяна. Вось і рэальная наша зарплата знізілася ўражальна. Нехта скажа, а што простаму чалавеку не да долара і яго курса. Ды прыкіньце толькі, што цяпер дзядзька на аўтавакзале павінен аддаць за білет у Віцебск сваю мінімальную зарплату. Дакладней не аддасць, бо такая паездка для яго ўжо даўна раскоша. Цэны растуць, нягледзячы на запэўніванні новага ўрада. І растуць вельмі хутка, выкідваючы ўсё большыя слаі грамадства за рысу жабрацтва. Бедныя ўжо ўсе мы. А між тым жыруюць і працягваюць жыраваць усе тыя «камерцыйныя» структуры, якія былі народжаныя яшчэ Кампартыяй і на яе грошы, а потым недасягальна разбагацелі на рабаўніцтве роднага народа. Ім і апошні скачок долара на руку, ён прынёс ім новыя мільярды. Усе абяцанні разабрацца з імі звядуцца, ,відаць па усім, да звычнай ужо барацьбы з мяшочнікамі і ўладальнікамі дробных крамак, якія надвор'я ніколі не рабілі.

Эканамічных мер па раскраданню народнага дабра ўрад пакуль што не прымае. Запомнім гэта.

Алесь КАСЦЕНЬ.




ДЫНАМІКА СЯРЭДНЯГА КУРСУ НАЯЎНАГА ДОЛАРА ЗША У АДНОСІНАХ ДА БЕЛАРУСКАЙ ВАЛЮТЫ НА ПРАЦЯГУ 1994 ГОДА

| Дата | Купля | Продаж |
|---|---|---|
| 4 студзеня | 5300 | 5800 |
| 2 лютага | 5780 | 6070 |
| 2 сакавіка | 7100 | 7400 |
| 1 красавіка | 11000 | 11440 |
| 4 мая | 15360 | 15910 |
| 3 чэрвеня | 21131 | 21750 |
| 4 ліпеня | 24840 | 25600 |
| 3 жніўня | 23600 | 24400 |
| х—усе дадзеныя вышэй да дэнамінацыі | | |
| 2 верасня | 2750 | 2880 |
| 15 верасня | 3100 | 3250 |
| 3 кастрычніка | 4200 | 4380 |
| 17 кастрычніка | 5100 | 5400 |
| 30 снежня (прагноз) | 8900 | 9600 |

Грамадзяне! Захоўвайце вашы зберажэнні ў замежнай валюце — гэта выгадна і надзейна. Няхай жыве яго вялікасць долар! (Гумар рэд.)

# Балык

Вершаваная гумарэска

Брыгада з цэглы дом кладзе.
І зноў няма раствору.
«Ну што ж, і полудзень ідзе
Хай збегае каторы», —
Сказаў ім хмурны брыгадзір.
І маладзейшы самы
Прынёс брыгадзе ўсёй кефір
Ды два батоны з крамы.
Пасела кругам грамада
На скразняку асеннім.
Няма раствору — вось бяда.
Хто іх прастой ацэніць?
І туг успомніў малады:
«Браткі, ва ўніверсаме
Даюць балык.
Такі руды ...
Мо вы калі кусалі?»
«Балык?
Не чуў, ну а цана?
Відаць, не наша ежа, —
І брыгадзір дапіў да дна, —
Нам каб свініны свежай.»
«Балык — то рыба, брыгадзір,
Цудоўнейшая рыба!»
«Якая рыба? Глянь — схадзі:
То паляндвіца нібы».
Павесялелі мужыкі:
Дык рыба альбо мяса?
З хлява ідзе ці то з ракі
На панскі стол прыўкраса?
«Завезлі ж у мясны аддзел».
«Ды гэта рыба, шэры!
Я ж у Сібіры пяць сядзеў,
Там з рэк рукамі беруць».
«Не, мяса».
«Рыба!»
«Ах, ты, тля...»
Ідзе да рукапашнай.
Хай самазвал гудзіць здаля —
Прастой ужо не страшны.
Нібы ў авальнай зале то:
Крычаць без дай прычыны.
І быў да вечара прастой.
Пабіліся мужчыны.

Мараль?
Яна даўно пры мне:
Народ наш бедны ежай
І пры жалезнай той сцяне
Ды й пры празрыстых межах.
А вось чаму заўжды наўрод?
І, каб пад'есці сыта,
Ісці назад нам ці ўпярод —
Рашаць без нас нібыта.

Алесь КАСЦЕНЬ.

«БЕЛЫЯ ПЛЯМЫ» ГІСТОРЫІ

АНАТОЛЬ МАЙСЯЁНАК

# Пастаўскі сюжэт у жыцці акадэміка астранаўтыкі

ДАКУМЕНТАЛЬНЫ НАРЫС

(Працяг. Пачатак у № 14).

А тым хто скончыў праграму далі прыгожыя дыпломы, надрукаваныя у мясцовай друкарні. З цяжкім сэрцам развіталіся, наперадзе было зусім невядомае... Але было відавочным, што не пазбегнуць сустрэчы з НКУС, сумна вядомым з часу «другіх Саветаў» (1939—1941 гг.) Б. Кіт вырашыў разам з сям'ёй падацца на Віленшчыну, куды, па чутках, быў эвакуіраваны Магілёўскі медычны Інстытут, які узначальваў прафесар Сцяпанаў. Было відавочным, што з беларускім школьніцтвам справа скончаная, а медыцына давала нейкія перспектывы на жыццё, на магчымасць утрымаць сям'ю. Інстытут быў размешчаны у Нова-Вілейцы пад Вільняй, студэнтаў розных курсаў было больш як 100 чалавек, і Б. Кіт быў адразу залічаны на III курс, дзе пачыналася вывучэнне клінічных дысціплін.

Разам з інстытутам пераехалі у Нямеччыну, у час сканчэння вайны апынуліся ў Заходняй Германіі. Пачаліся цяжкія дні выгнанцаў з роднай зямлі, так званых перамешчаных асоб.

У гэтыя цяжкія дні, калі будучыня, лёс сям'і, сяброў былі ў поўнай цемры, прыйшоў час самастойна, кожнаму паасобку выбіраць свой далейшы шлях. Як піша у сваім артыкуле «Беларус—акадэмік астранаўтыкі» Яўген Лецка: «...Як адышла вайна, у нас не разбіраліся хто, што і ў імя чаго рабіў пад акупантам. Усякая дзейнасць падводзілася пад артыкул супрацоўніцтва з ворагам і адпаведна сурова каралася. Няма сумнення, што такой кары не здолеў бы пазбегнуць і Барыс Кіт. А таму яго рашэнне эміграваць на Захад было падрыхтавана не асабістай прыхаваццю, а з'яўлялася, бадай, адзіным шансам уратаваць сваё жыццё, пазбавіцца сталінскіх лагераў».

Але да рэалізацыі гэтага выбару яшчэ трэба было дажыць, пракарміць і утрымаць сям'ю, жонку, Ніну Корсак, былую вучаніцу беларускай Віленскай гімназіі і 4-х гадовага сына Уладзіміра. Часовыя заробкі змяніліся выкладчыцкай працай у лагеры перамешчаных асоб у Равенсбруке, дзе меў пасаду выкладчыка у часовай польскай гімназіі. Трохі пазней вытрымаў экзамен на 3 курс медычнага факультэта Мюнхенскага Універсітэта і працягнуў медычную адукацыю да 1948 г. Здавалася вось-вось будзе атрыманы лекарскі дыплом, але жыццё прыціскала... У гэты час прыйшло запрашэнне ад знаёмых у ЗША, якое вырашыў неадкладна рэалізаваць. Далей жыць так больш было немагчымым... Як успамінаў пра гэты выбар Барыс Уладзіміравіч: «... Шчыра кажучы шкадаваў, што не скончыў медыцыны. Але ж... у Амерыцы нічога сталага няма, увесь час трэба змагацца за працу...» А да гэтага Б. Кіт быў вельмі і вельмі добра падрыхтаваны. Яго незвычайныя здольнасці, працавітасць, няўрымслівасць чакалі справы, справы яго жыцця.

Заморская зямля сустрэла далёка не гасцінна. Спачатку працаваў на хімічных прадпрыемствах штата Нью-Джэрсі. Менавіта тут, у Сант-Рыверы узнікла беларуская калонія, пашырэнню якой вельмі спрыяў Барыс Кіт. Не забыўся ён пра сваіх паплечнікаў, сяброў, былых вучняў... Адзін за другім вандравалі яны праз Атлантыку і далучаліся да «сваіх». Па ініцыятыве Б. Кіта адчыніўся дапамогавы камітэт, першым старшынёй якога стаў былы рэктар Магілёўскага медычнага інстытута прафесар Сцяпанаў, потым і сам Барыс Уладзіміравіч яго узначаліў. Пазней камітэт па ініцыятыве дзеяча беларускай эміграцыі М. Шчорса пераўтварыўся у Беларускі кангрэсавы камітэт, які фармальна існуе у наш час. Па справах працы пераехаў у Каліфорнію, дзе амаль 7 гадоў працаваў на прадпрыемстве фармацэўтычнай хіміі кампаніі «Сцюард Вайтамінс» у Лос-Анжэлесе. Займаўся галоўным чынам аналізам вітаміннай прадукцыі, у прыватнасці вітаміна А. Патроху прыйшло да Б. Кіта ў сям'ю дастатак, дабрабыт. Але ўсё не забывалася пра Беларусь, пра суродзічаў, землякоў, паплечнікаў і вучняў. Пачаў ствараць аб'яднанне беларусаў у Лос-Анжэлесе, у чым верным паплечнікам быў яго былы віленскі вучань Часлаў Найдзюк. Вельмі шчыра ставіліся да беларусаў, як дарэчы і ў Сант-Рыверы, украінскія арганізацыі, якія дапамагалі і маральна, і матэрыяльна. Вельмі хутка беларуская грамада зажыла сваім грамадскім жыццём, падтрымліваючы нешматлікую грамаду нашых землякоў.

Амаль выпадкова, у 1955 годзе, на адной з польскіх вечарын, сустрэўся з былым прафесарам Варшаўскай палітэхнікі Густавам Макшыцкім, які ужо пэўны час працаваў у Паўночнай Амерыцы. Ведаючы Б. Кіта яшчэ з даваенных часоў, прафесар прапанаваў: «Што Вы там круціцеся са сваёй дурацкай хіміяй. Пераходзьце да нас, маеце 500 долараў у месяц, а у нас больш 700 атрымаеце... А галоўнае, чакае цікавая праца...»

(Заканчэнне будзе).

# Міністр паслаў. У аўташколы

Толькі прайшоўшы навучанне ў аўташколе, за якое трэба заплаціць 115 тысяч беларускіх рублёў (у новым вылічэнні) і набыўшы ўласных 56 літраў бензіна, цяпер можна атрымаць вадзіцельскае пасведчанне. Існаваўшая дагэтуль практыка здачы экзаменаў у ДАІ экстэрнам адменена ўказаннем новага міністра ўнутраных спраў. Вадзіцелі заўсёды былі патрэбны народнай гаспадарцы, але часы змяніліся і ўжо усё менш набіраецца груп для заняткаў у аўташколе Пастаўскага СТК. Непрэстыжнай становіцца праца за рулём, аўтапаркі ў раёне маюць цяжкасці з атрыманнем заказаў на перавозкі грузаў, не хапае запчастак, не-не ды здараюцца перабоі з палівам. Таму сёння і заробкі ў параўнанні з застойнымі гадамі ў аўтамабілістаў нізкія. Добра, што хоць замежных патрыманых аўтамабіляў становіцца ўсё больш, а значыць ездзіць мы не перастанем.

# „Чырвоны певень" балюча клюе

Абстаноўка з пажарамі, як і паўсюдна ў краіне, так і на Пастаўшчыне, працягвае заставацца складанай. Не да жартаў, калі толькі сёлета па нашай вобласці адбылося 1650 пажараў, якія прынеслі стратаў больш чым за паўтара мільярда рублёў. На жаль у агні полымя згарэлі 66 жыхароў, у тым ліку і 10 дзяцей. Вось толькі на працягу адной нядаўняй суботняй ночы ў раёне згарэў чалавек разам з жылым домам у вёсцы Заброддзе, а ў Дунілавічах не ўдалося выратаваць з полымя ў цялятніку 64 цялятні. Калі ў горадзе ў наступаючую зіму сітуацыя будзе заставацца больш-менш нармальнай, то на вёсцы, дзе згодна статыстыкі і ўзнікае больш 70% пажараў, можна чакаць новых бедаў. Да стварэння дзейнай дзяржаўнай пажарнай службы рукі не даходзяць ды і грошаў не хапае. Цяпер толькі 6 працэнтаў падраздзяленняў пажарнай аховы дастаткова фінансуюцца з бюджэту, колькасць байцоў кожнай такой часці амаль у 3 разы ніжэй неабходнага мінімума па штату.

# Супер-факт

Новы від бізнеса для жадаючых добра зарабіць за мяжой паспяхова развіваецца на Беларусі. Цяпер кожны месяц 40 беларускіх жанчын вылятаюць самалётам за акіян, дзе, працуючы дамашнімі прыслугамі ў ЗША, атрымліваюць па гадавому кантракту штомесячна па 600 долараў кожнай.

x x x

У постсавецкім Узбекістане, як і ў ранейшыя гады, разгарнулася кампанія за здачу макулатуры, людзей заклікаюць абменьваць папяровыя адходы на хадавыя тавары. Трусы жаночыя там «каштуюць» 4 кг макулатуры, а мужчынскія, як і пара шкарпэтак, — ужо 6, самыя «танныя» — кавалак мыла, пачка цыгарэт «Астра» і баначка абутковага крэма — па 2 кг макулатуры.

x x x

У мястэчку Троіцка-Пячорску, што ў Рэспубліцы Комі, ад моцнага яду загінуў бомж па мянушцы Хадуля. Як высветлілася, перад сваёй смерцю ён наеўся .... бульбы, выкапанай на чужым агародзе, гаспадар якога такім чынам задумаў настрашыць шматлікіх зладзеяў і шэраг клубняў апырскаў моцным ядам.

x x x

Група мужчын, якія прайшлі ваенныя зборы ў раёне Чарнобыльскай зоны, правяла медыцынскае абследаванне. На жаль, кожнаму пятаму вайскоўцу запаса быў пастаўлены дыягназ прамянёвай хваробы 1—3 ступені, а трэцяя частка аказалася нявдольнай да нармальнага інтымнага жыцця.

x x x

У магутнасці матацыкла «Харлей Дэвідсон» не прыходзіцца сумнявацца. Нядаўна на ім праехалі 1,5 кіламетра адразу 40 ваеннаслужачых арміі ЗША.

x x x

Часопіс «Макуорлд» даследваў 301 амерыканскую кампанію і высветліў, што выкарыстоўваюць электронныя тэлеманіторы для назірання за супрацоўнікамі 21% арганізацый. А вось прачытваюць файлы на рабочых камп'ютарах аж 74% фірм, праслухоўваюць гукавую пошту 15%.

x x x

200 тысяч долараў уклалі беларускія прадпрымальнікі ў абсталяванне мінскага начнога дыскабара «Ксантыя». Сёння ён лічыцца лепшым на тэрыторыі ад Варшавы да Масквы.

x x x

Глыбока шакіраваў брытанцаў скульптар Марк Куін, які выставіў на адной з цэнтральных вуліц Лондана свой партрэт у натуральную велічыню зусім голым і з... эрэгіраваным членам. Пасля гэтага большасць школьных аўтобусных маршрутаў было зменена.

x x x

Самы эфектыўны від транспарта, аказваецца — веласіпед. Калі яго ўладальніку надзець абцякацель, то ў выніку скорасць веласіпеда дасягае 105 км у гадзіну.

Рубрыку вядзе **У. РАМАНАЎ.**

# Крамлёўская трагікамедыя ў трох дакументах



**ДАКУМЕНТ 1.**
**Тав. Сталіну**
**Копія: тав. Кагановічу**

16 кастрычніка супрацоўніца Асобага сектара т. Сентарэцкая ўскрывала паступіўшыя за дзень пісьмы і заявы на імя т. Сталіна.

У адным з ускрытых ёю пакетаў замест пісьма апынуўся невялікі кавалак масы карычневага колеру, па знешняму выгляду — экскрэменты. Пры ўскрыцці гэтага пакета — па словах т. Сентарэцкай і іншых супрацоўнікаў — распаўсюдзіўся моцны пах.

Расхваляваная і прыгнечаная т. Сентарэцкая, схапіўшы масу, па яе словах, вынесла яе ва ўборную, дзе і выкінула ва ўнітаз. Пасля выхаду з уборнай у т. Сентарэцкай закружылася галава. Увайшоўшы у пакой, яна ўпала на падлогу, ударылася патыліцай. Прыйшоўшы ў свядомасць праз некалькі мінут, яна заявіла, што нічога не бачыць. Выкліканы урач, агледзеўшы т. Сентарэцкую і не знайшоўшы ніякіх прыкмет якіх-небудзь пашкоджанняў, заявіў аб неабходнасці змяшчэння т. Сентарэцкай у бальніцу для далейшага назірання і даследвання.

Па дадзеных медыцынскага заключэння (прыкладаюцца) і назіранняў у бальніцы, высветлілася, што слепата т. Сентарэцкай з'яўляецца нібыта на глебе істэрыі і не выклікана дзеяннем хімічных рэчываў.

У гэты час, пачынаючы з 22 кастрычніка, зрок паступова да яе вяртаецца.

У адносінах папераджальных мерапрыемстваў для супрацоўнікаў, працуючых па ўскрыццю пісем, прыняты наступныя меры:

1. Ускрываючыя пошту забяспечаны гумавымі пальчаткамі, якія павінны надзяваць пры ўскрыцці пісем.
2. Набыты запас розных дзезінцыфіцыруючых сродкаў.

26.X.35 г.

**Заг. АС ЦК (Паскрэбышаў)**

**На дакладной запісцы загадчыка Асобым аддзелам ЦК ВКП (б) рэзалюцыя Сталіна: «Тт. Молатаву, Андрэеву, Мікаяну, Кагановічу». Дакумент чыталі і завізіравалі Молатаў, Андрэеў, Мікаян.**

**ДАКУМЕНТ 2.**
**Народнаму камісару ўнутраных спраў Саюза ССР тав. Ягада.**

16 кастрычніка с. г. у асобы сектар ЦК ВКП (б) паступіла адрэсаванае «Крэмль, тав. Сталіну» міжгароднае пісьмо, апушчанае 13 кастрычніка ў паштовую скрыню за межамі Масквы.

Супрацоўніца 5-й часці асобага сектара ЦК ВКП (б) тав. Сентарэцкая — чл. ВКП (б), якая праводзіла ўскрыццё пошты і, у прыватнасці, ускрыўшая гэта пісьмо, заўважыла ў канверце загорнутае ў паперу рэчыва, якое яна прыняла па знешняму выгляду за экскрэменты. Паколькі гэта рэчыва пахла гваздзікамі, яна паказала яго загадчыку 5-й часці сектара тав. Сяліцкаму і яго намесніку тав. Кабашкіну. Абодва яны агледзелі рэчыва, адчулі пах гваздзік, і тав. Кабашкін загадаў Сентарэцкай выкінуць ва ўборную рэчыва, якое знаходзілася ў канверце. Сентарэцкая, вярнуўшыся з уборнай, куды яна хадзіла выкідваць гэта рэчыва, прыступіла да працы, але праз некалькі мінут заявіла, што адчувае сябе дрэнна, спрабавала ўстаць з крэсла, але ўпала, страціўшы прытомнасць, і ўдарылася пры падзенні галавою аб падлогу. Калі пасля першай дапамогі да Сентарэцкай вярнулася прытомнасць, яна пачала скардзіцца на цемнату ў вачах, а затым на слепату.

Сентарэцкая была неадкладна адпраўлена ў Крамлёўскую бальніцу, дзе ёй была аказана неабходная медыцынская дапамога і дзе яна прайшла ўсебаковае абследаванне. Прафесар Авербах М. О., прыват-дацэнт Раппопорт М. Ю., нам. галоўнага ўрача Крамлёўскай бальніцы Коген Б. Е. і ўрач-неўрапатолаг Тэппер Я. В., якія праводзілі абследванне, прыйшлі да заключэння (аб чым склалі акт), што раптоўная слепата — істэрычнага характару і што якіх-небудзь сімптонаў арганічнага захворвання сістэмы вачэй і зрокавых шляхоў, якія б тлумачылі раптоўна ўзнікшую слепату, няма.

Навукова-даследчы інстытут санітарыі і 13-е аддзяленне камуністычнага шпіталя РККА, куды мы звярнуліся за праверкай гэтага заключэння, пацвердзілі яго і склалі акт аб тым, што раптоўная слепата не можа быць растлумачана ўплывам вядомых інстытуту хімічных рэчываў.

У цяперашні час зрок у Сентарэцкай паступова аднаўляецца і ўжо блізкі да нормы.

Так як папера з загорнутым у яе рэчывам была выкінутая ва ўборную, таму мы правялі ўсебаковае даследванне толькі застаўшагася канверта. Даследванне праводзілася начальнікам 1-га аддзела Навукова-даследчага інстытута РККА тав. Удрасам, які не знайшоў на канверце прыкмет якога-небудзь атрауляючага рэчыва.

Далейшае расследванне, якое вядзе Асобы аддзел, ускладняецца, бо на канверце сцёрты паштовы штэмпель пункта адпраўлення і цяжка ўстанавіць горад, адкуль пісьмо было адпраўлена.

**Нам. нач. Аперода ГУГБ НКВД (Валовіч).**

27 кастрычніка 1935 г.

**ДАКУМЕНТ 3.** **Копія.**
**Начальнік 1 аддзела Навукова-даследчага хімічнага інстытута РККА**

17.X. 1935 г.

Пры аглядзе канверта высветлілася:

У канверце слядоў рэчыва зусім не захавалася, і магчымасць прымянення хімічнага аналіза т. ч. выключана.

Канверт мае слабы пах, які аддалена падобны на пах экскрэментаў або мясных вырабаў (кішок, якія ідуць на выраб каўбасы, або т. п.).

Можна зрабіць вывад, што прадмет, які ўтрымліваўся ў канверце (па ўсёй верагоднасці, ён быў загорнуты яшчэ ў іншую паперу) жывёльнага паходжання, аднак гэта ні ў якой ступені нельга лічыць даказаным.

**Нач. I аддзела НІХІ РККА**
(подпіс).

**Падрыхтаваў М. УСПЕНСКІ, аглядальнік газеты «Рэспубліка».**

# Дарагія слёзы Прэзідэнта, ды Масква ім не верыць

Як стала нам вядома, 800 мільёнаў рублёў каштавалі Кабінету Міністраў слёзы беларускага Прэзідэнта, расчуленага сустрэчай з камандай гімнастак, аб якой ён так маляўніча распавядаў у сваім тэлеінтэрв'ю маскоўскаму журналісту А. Каравулаву. Менавіта такая сума выдзелена ўрадам з яго рэзервнага фонда на будаўніцтва ў Мінску залы мастацкай гімнастыкі. Распараджэнне аб гэтым падпісана 29 верасня за нумарам 196 р. Дарэчы, гэта і правільна, бо тут наша каманда адна з лепшых у свеце, заслужылі сабе дзяўчаткі такі падарунак салёным потам на трэніроўках. Дзякуючы іх перамогам нашу дзяржаву пакрыху пачынаюць ведаць на планеце.

А вось што датычыцца іншых момантаў таго чатырохгадзіннага інтэрв'ю, у вышэйшым кіраўніцтве Расіі далёка не аднназначна аднесліся да шэрагу іншых палітычных выказванняў і поглядаў А. Лукашэнкі. Такую інфармацыю даў экс-прэм'ер В. Кебіч аглядальніку газеты «Беларускі час». Пацвярджэннем гэтай неадназначнасці можа сведчыць тое, што з 1-га кастрычніка Расія зноў пачала браць мытныя пошліны на беларускія тавары. І адначасова жорстка ставіць пытанне аб вяртанні даўгоў: каля трыльёна рублёў за пастаўкі нам энерганосьбітаў. Так што нашаму Прэзідэнту яшчэ толькі пачынаючаму разумець усю важнасць кожнага ім сказанага слова, прыйдзецца не ўсё шчыра перад камерай гаварыць. Разумеючы усю трагічнасць сітуацыі, прыйдзецца яму ісці на непапулярныя меры, якія усё больш разыходзяцца з перадвыбарнымі абяцаннямі.

**Наш. кар.**

«Сумежжа». Заснавальнікі: Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Рэгістрацыйны нумар 701 у міністэрстве інфармацыі РБ. Выходзіць два разы на месяц.

Рэдакцыйны савет А. Гарбуль, М. Гіль, А. Касцень, І. Сідаровіч, У. Шык, І. Атрахімовіч, Ф. Цыбульскі, А. Стахоўскі, Г. Гучык.
Рэдакцыя друкуе матэрыялы аўтараў, пазіцыю якіх не заўжды падзяляе.
Пішыце: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д. 11 Гілю М. Н. Тэлефануйце: 2-17-84, (пасля 19 гадзін)

Індэкс 63986. Тыр. 600
Пастаўская узбуйненая друкарня г. Паставы, вул. Ленінская, 42.
Падпісана да друку 19.10.94.
Зак. 1887
Выдаецца на грамадскіх пачатках.